ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 40 (2338) 7 кастрычніка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

## "Я ЗАСТАЎСЯ ТЫМ ЖА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ДЭМАКРАТАМ"

На допыце перад следчымі ДПУ Вацлаў Ластоўскі не крывіў душой. Ён пацвердзіў свае нацыянальна-дэмакратычныя перакананні, прызнаўшы сябе з гэтае ж высновы вінаватым перад бальшавіцкімі ўладамі, аплаціўшы сваю беларускую перакананасць выгнаннем з Бацькаўшчыны, а затым і ўласным жыццём. Такога не магло здарыцца ні ў Коўне, адкуль Ластоўскі ў 1927 годзе пераехаў на працу ў Менск, ні ў Варшаве, куды перад тым яму прапаноўвалі пераязджаць заходнебеларускія дзеячы. Там зняволіць і судзіць маглі толькі за процiпраўныя, нязгодныя з законамі дзеянні. Тут, у СССР, альбо ў БССР каралі за адметнасць думкі, супярэчнай ці нават адрознай ад пануючай ідэалогіі. Але трагічны зыход вядомага дзеяча-адраджэнца не адно ў паслядоўнасці ягоных перакананняў. На шалях пакутнага лёсу Ластоўскага заважылі і ўласныя ілюзіі, надзея спалучыць, як зазначаў у сваіх паказаннях, нацыянальны дэмакратызм і савецкі лад. Шляхетнае спадзяванне памкнула яго на радзіму, і яно ж фактычна праз тры гады замкнула за ім турэмную браму. Жорсткі парадокс абярнуўся злавеснаю расплатаю не для аднаго Ластоўскага, аб чым цяпер шырока вядома з розных публікацый па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі, рэпрэсіўнае антынацдэмаўскае кампаніі, разгорнутай на пачатку 30-х у БССР бальшавіцкімі прапагандовымі і карнымі службамі.

Публікуемыя ніжэй у фрагментах паказанні В.Ластоўскага (захоўваюцца ў Архіве КДБ Рэспублікі Беларусь, справа 20951-С, т.4, 31 ліпеня—7 кастрычніка 1930 года) пашыраюць і дапаўняюць часткова ўжо знаную карціну расправы над беларушчынай у Беларусі. Адначасна ў нечым давяршаюць творчы й асабовы партрэт неардынарнае, далёка не разгаданае постаці аднаго з вядучых беларускіх палітыкаў, пісьменнікаў, вучоных. Нямала пытанняў тоіць у сабе прапануемы чытачам "Голасу Радзімы" матэрыял. Адно з іх, ці не асноўвае — характар беларускага нацыянал-дэмакратызму, дакладней, правіны ягоных носьбітаў перад уладнаю сістэмай, што гэтак каварна абышлася са сваім фактычным саюзнікам па рэвалюцыйнаму змаганню.

З тэксту Ластоўскага паўстаюць канкрэтныя ідэйныя рысы нацыянальнага дзеяча, прэпараваныя следствам у нешта накшталт, абвінаваўчых улікаў, "состава преступления" падследнага, змушанага да саманагавору й пакаяння ў злачынстве, якога не зрабіў.

Вось "грахі", у якіх мусіў каяцца перад следчымі Ластоўскі:

адданасць ідэі Беларусі, беларускай дэмакратычнай незалежнай дзяржаве; повязь гэтае ідэі з мэтамі сацыялістычнага будаўніцтва, заклапочанасць нацыянальна-беларускімі, адэкватнымі саманазве рэспублікі падставамі палітычнага і эканамічнага ладу, кадравай палітыкі, самабытнасцю, беспарашкодным і ўсебаковым развіццём нацыянальнае культуры, навукі, асабліва беларускае мовы; непагаджэнне з фармальна-кампанейскім падыходам бальшавіцкіх уладаў да беларусізацыі (яе жалюгодны фінал наступіў неўзабаве), з русіфікатарскім засіллем ("в учреждениях и школах более слышится русский, чем белорусский язык,.. университет благодаря своим в большинстве русским кадрам проводит русификацию"), з гвалтоўнай калектывізацыяй і г.д. Словам, перад намі якасці Грамадзяніна-Патрыёта, пакаранне за якія лішні раз выяўляе антычалавечую, антыбеларускую сутнасць бальшавізму, што гэтулькі часу нявечыў плоць і дух народа.

Сёння, калі ў незалежнай Беларусі гэтым якасцям вяртаецца іх першасны, нескажоны сэнс, паказанні Вацлава Ластоўскага прачытваюцца як абвінавачанне і прысуд партыйна-таталітарнай сістэме, пры якой любоў да Бацькаўшчыны кваліфікавалася і каралася як злачынства. Прачытваецца як засцярога, заклясце: будзь чуйны, Беларусе. Не дай чароднаму месіі-сатане спакусіць сябе ў тванішча "светлага ўчора", дзе пад блюзнерскім лозунгам "Мы дружбой, единством и братством сильны" (дасюль, кажуць, красуецца над прывакзальнымі "варотамі" беларускае сталіцы) шматмільённую самабытную нацыю пачнуць зноў перараблясць у "інтэрнацыянальнага" мутанта — на пасмешышча другім народам і дзяржавам. Тым болей, што вуснамі Ластоўскага з гэтых жа старонак па-свойму прамаўляюць да нас і другія прарочыя галасы — Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Сцяпана Некрашэвіча, Усевалада Ігнатоўскага... Прамаўляе ў балесным дакорлівым маўчанні ўся расстраляная, знявечаная і ўваскрослая Беларусь.

Такое ў мяне, вядома, асабістае прачытанне пададзенага ніжэй тэксту. У іншага чытача яно можа быць іншым. Але Вацлаў Ластоўскі адзін — яму і слова.

**Аляксей КАЎКА.**

**(Паказанні В.Ластоўскага пад загалоўкам "Я застаўся тым жа нацыянальным дэмакратам..." чытайце на 5-й стар.).**



**Вацлаў ЛАСТОЎСКІ (другі справа) з жонкай Станіславай ЛАСТОЎСКАЙ у этнаграфічнай экспедыцыі - ваколіцы м. Даманавічы на Случчыне (цяпер Салігорскі раён). Лета 1928. З архіва Беларускае бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. Фотарэпрадукцыя Эдварда МІХАЛІКА.**



**Сярэдняя школа ў вёсцы Сенніца пад Мінскам мае добрую славу. У ёй некалі вучыліся пісьменнікі Янка Купала і С.Шушкевіч.**

**(Фотарэпартаж аб Сенніцкай школе змешчаны на 8-й стар. А гэты здымак зроблены Віктарам СТАВЕРАМ у школе на ўроку беларускай мовы).**

### ДЗЯРЖАВА І ПЕНСІЯНЕРЫ

## КАЛІ НАСТУПАЕ ВОСЕНЬ ЖЫЦЦЯ

А ўсё ж такі, калі разабрацца, чалавечае жыццё пабудавана па самых дэмакратычных з усіх прыдуманых Богам і людзьмі законах, бо ў ім існуюць звышвызначаныя заканамернасці, якія не залежаць ні ад нашых жаданняў, ні ад грошай, ні ад сацыяльнага становішча. Адна з такіх непазбежнасцей, што раней ці пазней напаткае кожнага, — старасць. Ад яе не адкупіцца ні сувязямі, ні хабарам, ні службовымі прывілеямі. Проста раней ці пазней вочы пачынаюць горш бачыць, суставы цяжэй разгінаюцца, а сівізну не схаваць нават самай добрай фарбай. І зноў жа, калі разабрацца, то нічога трагічнага ў гэтым няма, бо прыходзіць яна не знянацку, а рыхтуемся мы да яе так ці інакш усё жыццё. Нават калі і думаць пра гэта не хочацца, але ж і ў 20 гадоў ведаеш, што калі-небудзь будзе 70, прыйдзе час падводзіць вынікі, азірнуцца на пражытае і з годнасцю прыняць непазбежнае. Напэўна, менавіта таму ва ўсе часы людзі імкнуліся знайсці добрыя словы, каб вызначыць гэтую пару чалавечага існавання. Старасць называлі і паважліва — высакароднай, і паэтычна — восенню жыцця, і з мяккай цеплынёю — заслужаным адпачынкам. Уласна кажучы, такім і павінен быць немітуслівы, прыстойны фінал плённага жыцця сярод клапатлівых дзяцей і гарэзлівых унукаў, напоўнены любоўю і павагай родных і грамадства за гады і сілы, аддадзеныя на яго карысць.

Эх, каб чутае бачыць... — вось адзіныя словы і пачуцці, якія ўзнікаюць, калі спрабуеш спраецыраваць гэтую ідылічную карціну на наша сённяшняе жыццё.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЗВАРОТ В.КЕБІЧА*

## ЗА ДРУЖБУ БЕЗ ФАЛЬШУ

**Да грамадзян рэспублікі звярнуўся Старшыня Савета Міністраў Беларусі В.Кебіч з нагоды 50-годдзя вызвалення нашай зямлі ад нямецкіх акупантаў. Прэм"ер нагадаў пра трагічныя ахвяры беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і яго гераізм.**

**Мы назаўсёды захаваем у памяці подзвігі людзей усіх нацый і народнасцей, якія знішчылі фашызм на беларускай зямлі, будзем памятаць і шанаваць усіх удзельнікаў антыфашысцкай барацьбы, гаворыцца ў звароце прэм"ера.**

**Гаворачы пра дзень сённяшні, В.Кебіч адзначае, што цяпер пачынаецца новы працэс умацавання гістарычных сувязей. Дружба, супрацоўніцтва, адзінства з усімі брацкімі народамі без фальшу, хлусні і падману становяцца рэальнасцю. Мы знаходзімся ў пачатку вялікага гістарычнага шляху, наперадзе велізарная карпатлівая работа. У тыя далёкія гады мы перамаглі адзінай сілай, сёння ідзе яднанне ў імя вялікіх мэт — шчасця і дабрабыту кожнага чалавека.**

*ЗАЯВЫ БСДГ*

## ДА ПІЛЬНАСЦІ І КАНСАЛІДАЦЫІ

**Выканкам ЦР БСДГ выступіў з заявай, у якой лічыць, што "дзеянні прадстаўнікоў праўрадавага наменклатурнага дэпутацкага аб"яднання "Беларусь" і іншых праімперскіх сіл накшталт Народнага Руху Беларусі, якія ініцыіруюць апошнім часам "звароты" і "кангрэсы" з мэтай утварэння "канфедэрацыі" з Расіяй "аднаўлення адзінай дзяржаўнасці з'яўляюцца спробай адцягнуць увагу грамадскасці краіны ад поўнага банкруцтва ўрада В.Кебіча, які гэтыя сілы падтрымлівае".**

**Урад абвінавачваецца ў некампетэнтных дзеяннях, у прыватнасці, што датычыцца выканання дзяржаўнай праграмы пераходу да рынкавай эканомікі. На думку Грамады, гэта прынесла Беларусі знешнюю запазычанасць, якая менеей чым за два гады ўзрасла з нуля да амаль 1 мільярда долараў [растрачаных без карысці для народа], шалёную інфляцыю, энергетычны крызіс, уступленне ў ваенны саюз з ваюючымі дзяржавамі. Цяпер, каб утрымацца ля ўлады, Кебіч і тыя, хто за ім стаіць, гатовы адмовіцца ад суверэнітэту Беларусі.**

**Грамадзяне Беларусі не павінны даць сябе ашукаць, перасцерагае БСДГ. Ні новая канфедэрацыя [якой па сутнасці з"яўляецца СНД з самага пачатку], ні аднаўленне "адзінай дзяржаўнасці" не выратуюць цяжкахворую беларускую эканоміку, не прынясуць дабрабыту народу. Сацыял-дэмакраты звяртаюцца да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам да пільнасці і кансалідацыі.**

**Выканкам ЦР БСДГ прапанаваў усім дэмакратычным партыям, рухам, арганізацыям, прафсаюзам і прадпрымальнікам правесці да пачатку чарговай сесіі Вярхоўнага Савета ўсебеларускую канферэнцыю па праблеме ўтварэння кааліцыйнага ўрада народнага даверу і шляхах выхаду Беларусі з эканамічнага і палітычнага крызісу.**

* * *

**Выканкам ЦР БСДГ канстатуе, што апошнія ўказы прэзідэнта Б.Ельцына былі выкліканы канфрантацыйнымі паводзінамі Вярхоўнага Савета Расіі, які блакіраваў выхад з крызісу ўлады, і абумоўлены ў многім супярэчлівымі і недасканалымі палажэннямі існуючай канстытуцыі РФ, прынятай яшчэ ў брэжнеўскі перыяд.**

**Мы выказваем спадзяванне, што ў кіраўніцтва і народа Расіі хопіць мудрасці і вытрымкі для цывілізаванага выйсця са становішча, якое склалася.**

**Мы звяртаем увагу грамадскасці і народных дэпутатаў Беларусі, што прапануемы да разгляду на сесіі ВС праект новай Канстытуцыі Беларусі ўтрымлівае хібы, уласцівыя дзеючай канстытуцыі Расіі, якія здольны выклікаць штучнае абвастрэнне адносін паміж галінамі ўлады.**

*РЭЛІГІЙНЫЯ СВЯТЫ*



**У Заслаўі адбыўся хрэсны ход у гонар свята Узвіжання Крыжа Гасподня. Былі праведзены малебен і ўсяночная.**
**НА ЗДЫМКУ: хрэсны ход у Заслаўі.**

*"Я бачу шлях да залежнасці і праз свае грошы. Паглядзіце на поўдзень, Я маю на ўвазе Украіну, да якой я стаўлюся з найвялікшай павагай, як, дарэчы, і да яе кіраўніцтва. Але заўважце, што там адбылося пасля ўвядзення ўласных грошай. Іх можна ўводзіць, прааналізаваўшы ўсе варыянты. І калі ўводзіць уласныя грошы дзеля таго, каб яны змарнелі, гэта будзе злачынства супраць незалежнасці большае, чым іншы крок. На жаль, калі б я быў такім дылетантам, якім быў яшчэ тры гады назад у адносінах да грашовай сістэмы, я мог бы сёння станоўча разглядаць патрыятызм многіх нашых шчырых беларусаў, што без уласных грошай не можа быць дзяржаўнасці. Цяпер жа я вымушаны сказаць, што, каб прыйсці да дзяржаўнасці з уласнымі грашыма, нам неабходна, мне здаецца, дзеля дабрабыту беларускага народа ўступіць у рублёвую зону новага тыпу. І калі мы будзем такімі разумнымі, калі наша фінансавае становішча стане моцным у рублёвай зоне, можа быць пастаўлена пытанне, каб перайсці на ўласныя грошы. І гэта, заўважу, не пярэчыць ніякім пагадненням па СНД і тым пагадненням, якія цяпер падпісваюцца. Проста ёсць разлікі, якія сцвярджаюць, што гэта не стрымліваючы фактар на сённяшні дзень.*

*Мы перажываем няпростую сітуацыю ў плане станаўлення фінансавай сістэмы. І без жорсткіх мер па абмежаванню фінансавых выдаткаў, па абмежаванню бюджэту, разумных мер па крэдытных стаўках не абысціся. Дарэчы, гэта патрэбна, нягледзячы на тое, ці пойдзем мы ў рублёвую зону, ці не пойдзем..."*

*(З інтэрв"ю Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧА "Народнай газеце").*

*АЦЭНКА ПАДЗЕЙ У РАСІІ*

## БНФ — ЗА ЕЛЬЦЫНА

**Сваё стаўленне да падзей у Расіі апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выказала ў адмысловай заяве.**

**Апазіцыя Беларускага народнага фронта лічыць поўнасцю апраўданымі і правамоцнымі дзеянні прэзідэнта Расіі Ельцына па роспуску Вярхоўнага Савета і прызначэнню нечарговых выбараў у новы прафесійна дзеючы парламент Расійскай Федэрацыі.**

**Мы лічым, гаворыцца ў заяве, што падзеі ў Расіі ёсць добры прыклад для Беларусі. Нечарговыя выбары, як заяўлена Вярхоўным Саветам, павінны адбыцца ў нас вясной 1994 года. Гэтыя выбары, калі трымацца закона і права, могуць прайсці толькі на тых умовах, за якія законна выказаліся 442 тысячы грамадзян Рэспублікі Беларусь, што паставілі свае подпісы за рэферэндум.**

**Існаванне старых структур улады на Беларусі, у Расіі, на Украіне і ў іншых месцах небяспечнае для грамадства. Першачарговай задачай апазіцыя лічыць адстаўку Савета Міністраў і стварэнне часовага [да выбараў парламента] кааліцыйнага ўрада Беларусі.**

*ДАГАВОРЫ*

## ТРЫ ДАКУМЕНТЫ

**На маскоўскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, што завяршылася стварэннем эканамічнага саюза, былі падпісаны тры важныя дакументы, якія ў асноўным датычацца вываду расійскіх войск, часова размешчаных на тэрыторыі Беларусі. Гэта дагавор аб статусе расійскіх войск, пагадненне аб парадку іх вываду ў Расійскую Федэрацыю і графік іх вываду.**

**Бакі дагаварыліся скараціць тэрмін вываду стратэгічных ядзерных сіл Расіі на два гады. Калі па Лісабонскаму пратаколу тэрмін вызначаны сямю гадамі, гэта значыць да 1998 года, то рэальна гэтыя войскі будуць выведзены ўжо ў 1996 годзе.**

*ЭКАЛОГІЯ*

## СТАЛІЦА ЗАДЫХАЕЦЦА

**Мінск літаральна задыхаецца ў дыме восеньскіх кастроў.**

**Спецыяльная аўтагаспадарка гарадской санэпідэмстанцыі знаходзіцца на галодным паліўным пайку. Замест 217 тон гаручага ў жніўні было атрымана толькі 110, і ў верасні яго атрымалі таксама толькі 50 працэнтаў. Таму за першыя 15 дзён восені Мінск не прыбіраўся на працягу дзевяці дзён. Намаганняў санэпідэмстанцыі ледзь хапае на ўборку бытавых адходаў, не кажучы ўжо аб асеннім лістападзе.**

**У такой сітуацыі адзіным памочнікам ва ўборцы застаецца агонь. Многіх дворнікаў і прыбіральшчыкаў стрымлівае пакуль толькі пагроза штрафу за спальванне смецця ў межах горада.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

"ЧЫРВОНУЮ кнігу Рэспублікі Беларусь" выпускае выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя". 400 відаў жывёл і раслін, якія знікаюць, змяшчае "Чырвоная кніга". 10 гадоў назад ў ёй былі пазначаны толькі 150 відаў.

НАШ альпініст, студэнт геаграфічнага факультэта БДУ Алег Копаць, узняў бел-чырвона-белы флаг на ўсходнюю вяршыню Эльбруса. Узыходжанне яго групы на галоўны пік Каўказа адбывалася ў цяжкіх пагодных умовах. Беларускія альпіністы прабылі на Эльбрусе каля 15 мінут.

У СТАЛІЧНЫМ магазіне "Школьнік" з"явіліся заморскія тавары, так неабходныя вучням. Для самых маленькіх — ранцы коштам... 220 тысяч рублёў. Для старэйшых — аўтаручкі па цане ад 930 тысяч да 1 мільёна рублёў з гакам.

150 МІЛЬЁНАЎ экю будзе затрачана на рэканструкцыю ўчастка дарогі Брэст—Мінск. Палову гэтай сумы выплаціць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, астатняе возьмуць на сябе нямецкія фірмы.

У СЕЙФЕ, што знаходзіўся ў рабочым кабінеце забітага нядаўна Д.Арцымені, старшыні Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў, знойдзена буйная сума грошай у амерыканскіх доларах, нямецкіх марках і іншай валюце. У пераліку на сённяшні курс яна складае 70 мільёнаў рублёў.

*УРАДЖАЙ-93*

**Пяцьсот гектараў займае сад у саўгасе імя Чарнышова Баранавіцкага раёна. Тут пасаджаны лепшыя сарты яблынь, груш, сліў, алычы, шмат чорных і чырвоных парэчак. У гэтым годзе гаспадарка адправіла на перапрацоўку 150 тон ягад, цяпер пачаўся збор яблык і груш.**

**Да 800 тон фруктаў плануюць атрымаць у саўгасе сёлетняй восенню.**



**НА ЗДЫМКУ: кіраўнік саўгаснага саду Сяргей МЯЛІК задаволены ўраджаем яблык.**

# КАЛІ НАСТУПАЕ ВОСЕНЬ ЖЫЦЦЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зніклі некуды са сквераў і паркаў бадзёрыя старыя, што маглі гадзінамі, акружаныя балельшчыкамі, праседжваць за шахматнымі дошкамі, усё радзей можна сустрэць на гарадскіх лаўках з абавязковымі газетамі ў руках пенсіянераў, якія лепш за ўсіх ведалі ўсе навіны і імгненна вырашалі любое пытанне ўнутранай альбо знешняй палітыкі. А між тым, пенсіянераў менш не стала. Наадварот, наша рэспубліка імкліва "старэе", і на сённяшні дзень 12 працэнтаў яе жыхароў — гэта людзі, якім больш за 65 гадоў. У Мінску пенсійную мяжу пераступілі 270 тысяч чалавек — 1/6 частка насельніцтва сталіцы. Кожны пяты жыхар Беларусі дасягнуў пенсійнага ўзросту, а да двухтысячнага года, па прагнозах спецыялістаў, пенсіянерам будзе кожны трэці...

Дык як жа сёння выглядае жыццё гэтай арміі старых, на долю якіх выпалі і гады сталіншчыны, і жудасная вайна, і пасляваенная галеча, і бытавая неўладкаванасць "хрушчоб", і ўсе іншыя "радасці" развітога сацыялізму і перабудовы непабудаванага грамадства?

Першае ўражанне, калі чытаеш лічбы, што сведчаць аб пенсійным забеспячэнні: не так ужо і дрэнна.

Мяркуйце самі: памер мінімальнай пенсіі па старасці сёння складае 13 тысяч 500 рублёў. Нямнога. Але ж для тых, хто атрымлівае гэты мінімум, устаноўлена даплата 4 500 рублёў. Калі табе за 80 — яшчэ столькі ж, калі ты ўдзельнік вайны — прыплюсуй да сваіх прыбыткаў яшчэ 50 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Максімальная пенсія па ўзросту складае 46 тысяч 575 рублёў. Што датычыцца пенсіянераў-інвалідаў, то іх штомесячны прыбытак даходзіць да 52 тысяч. Зайздросціць, вядома ж, ніхто не будзе, але трэба сказаць, што такія грошы сёння атрымліваюць далёка не ўсе маладыя, здаровыя і працаздольныя грамадзяне. Дастаткова сказаць, што заработная плата работнікаў сферы сацыяльнага забеспячэння, якія якраз і займаюцца налічэннем пенсій і доглядам за старымі, складае 20—25 тысяч. Але ж грошы — гэта далёка не адзінае, чым сёння можна аблягчыць жыццё старых. Бясплатная падпіска на газеты і часопісы, бясплатныя абеды, якія дастаўляюцца на дом адзінокім і бездапаможным і арганізуюцца для тых, хто не можа рухацца, таксама бясплатнае забеспячэнне бульбай, прадуктамі харчавання і адзеннем.

Літаральна на днях у Мінску адкрыўся магазін "Суполка", дзе будуць абслугоўвацца маламаёмныя пенсіянеры па так званых сацыяльна нізкіх цэнах. Праўда, памяшканне для гэтага магазіна "выбівалася" сацыяльнымі службамі больш за два гады (цікава было б даведацца, колькі прыватных фірмаў і сумесных прадпрыемстваў за гэты час адкрылі свае офісы ў цэнтры горада), але ж затое сёння пенсіянеры змогуць набыць там неабходныя рэчы па цэнах, даступных нават самым бедным. З велізарнай удзячнасцю расказалі мне ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння пра дырэктара вытворча-камерцыйнай фірмы "Ромікс" Канстанціна Церахава, які знайшоў грошы, каб аплаціць свята для старых, якое адбылася 1 кастрычніка ў Дзень састарэлых людзей у Мінскім Доме афіцэраў.

Асобная размова — дамы для састарэлых. Сумная размова, да якой мы яшчэ вернемся. Але ж сёння з упэўненасцю можна сказаць, што дзяржава ўсё ж такі знаходзіць грошы, каб старыя маглі там не толькі добра харчавацца, але і экзатычнымі бананамі часам ласавацца. Увогуле, на гэтым артыкул можна было б і скончыць, бо пра сённяшняе становішча пенсіянераў у ім расказана, прычым, усё напісанае цалкам адлавядае рэчаіснасці. Але ж любая з'ява, як той самы медаль, мае два бакі, і, разгледзеўшы адзін, давайце паглядзім на другі.

Не так даўно на пошце ад старой жанчыны, што прыйшла па пенсію, давялося пачуць: "Раней атрымлівала 88 рублёў, і на ўсё хапала, зараз — 20 тысяч, а як пражыць на іх — не ведаю"... Шчыра кажучы, я гэтага не ведаю таксама, бо калі дзесятак яек каштуе амаль паўтысячы рублёў, цюбік зубной пасты ад тысячы да трох, а бутэлька кефіру — 70 рублёў, нават у маладога і здаровага апусцяцца рукі. А гэта ж старыя, у якіх ужо няма сіл, каб стаяць у доўгай чарзе за таннымі прадуктамі ці праціснуцца першым да прылаўка. Так што часцей за ўсё грошай хапае толькі на самую простую ежу, а калі, крый Божа, давялося набыць новую куртку ці чаравікі, — хадзіць яму галодным. Вось і пацягнуліся ў раённыя аддзелы сацыяльнага забеспячэння за дапамогай тыя, хто яшчэ зусім нядаўна лічыў сябе матэрыяльна забяспечанымі. Толькі там, у першую чаргу, імкнуцца дапамагчы адзінокім, бо справядліва лічаць, што тым, у каго ёсць родныя, хаця б талерка супу гарантавана. Але ж яшчэ адна сумная прыкмета часу: усё больш і больш бацькоў пры жывых дзецях трапляюць у дамы састарэлых. Так-так, самі дочкі і сыны прывозяць туды сваіх мамаў, татаў і пакідаюць іх там, папярэджваючы персанал: нават калі назад прывезяце і на парог пасадзіце, — у дом не пушчу! Ды і бацькі часам просяцца: пакіньце тут, бо калі адправіце дамоў — у пятлю палезу... Такі канфлікт бацькоў і дзяцей аўтару вядомага ўсім рамана Тургеневу нават не сніўся.

Старому чалавеку зараз даводзіцца адмаўляцца ад усяго, нават самага неабходнага. Карыстанне тэлефонам ужо каштуе 500 рублёў у месяц, дадайце сюды яшчэ і памінутную аплату размоў, якая пачала дзейнічаць месяц таму, памножце гэта да дванаццаць месяцаў і атрымаеце лічбу, якая будзе вельмі многім не па кішэні. А тэлефон для старых — часам адзіны сродак зносін з людзьмі, магчымасць выклікаць "хуткую дапамогу"...

Яшчэ не так даўно рэспубліканскі Фонд міласэрнасці і здароўя мог час ад часу парадаваць пенсіянераў бясплатнымі пуцёўкамі ў дамы адпачынку. Сёння знікае і гэтая магчымасць: базы адпачынку і санаторыі дзяржава, не маючы сродкаў на іх утрыманне, перадае камерцыйным структурам, якія робяць з іх утульныя куточкі "для сваіх". Ды што там санаторыі, калі сёння няма бензіну, каб развезці абеды бездапаможным і адзінокім. І як ні тлумачаць супрацоўнікі сацыяльных службаў у камітэце па нафце і газу, што, калі сёння зэканоміць на іх транспарце, заўтра ўзрасце расход на бензін для пахавальных машын, іх не чуюць. Дарэчы, што датычыцца пахаванняў. Апошнім часам узнікла новая жудасная з'ява: родныя, бывае, адмаўляюцца забіраць з моргаў целы сваіх памершых блізкіх. Можна, канешне, многа гаварыць пра чалавечую чэрствасць і абыякавасць, але пажадана перад гэтым азнаёміцца з прэйскурантам рытуальных паслуг. Пасля гэтага адразу хочацца пажадаць усім акружаючым доўгага-доўгага жыцця. Трэба чакаць, што калі інфляцыя будзе такімі ж тэмпамі "накручваць" цэны ў гэтай сферы, усё болей і болей людзей стануць кіравацца біблейскім запаветам: "Хай мёртвыя хаваюць сваіх мерцвякоў"...

Што можна да гэтага дадаць? Зноў заводзіць размову аб чэрствасці і бяздушшы? А можа прыгадаць, што найпершы абавязак любой дзяржавы — стварыць для сваіх грамадзян умовы, у якіх яны мелі б магчымасць выявіць свае лепшыя рысы. Бо грамадства можна лічыць нармальным, здаровым і добра арганізаваным толькі тады, калі яго членам выгадна быць шчырымі, інтэлігентнымі, маральнымі і прыстойнымі. На жаль, у нас сёння, каб добра жыць, патрэбны зусім іншыя якасці. Хаця права выбару маральных арыенціраў у асобы не можа адабраць ніхто, нават тое ж грамадства, аб стане якога, дарэчы, судзяць менавіта па адносінах да слабейшых, а значыць — старых.

І яшчэ адно. "Старэе" не толькі наша Беларусь. Сёння кожны месяц на планеце мільён чалавек пераступае мяжу 60-годдзя, 100 тысяч чалавек пераходзяць мяжу 80-гадовага ўзросту. Урады, якія думаюць аб будучыні сваіх дзяржаў, ужо даўно зразумелі гэта і робяць стаўку не на моладзь, а на старых. Ствараюцца ўсе ўмовы, каб грамадства як мага даўжэй магло карыстацца іх вопытам, ведамі і ўменнем, каб захаваць працаздольнасць пенсіянераў, іх цікавасць да жыцця. А яшчэ мудрыя ўрады клапоцяцца пра сваіх старых таму, што разумеюць: іх сённяшні дзень — гэта заўтрашні дзень тых, хто сёння моцны, дужы і здаровы, і ад яго не адкупіцца ні грашамі, ні сувязямі, ні прывілеямі...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ЁСЦЬ ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Соня БЕЙЦ з Таронта кожны месяц дасылае ў фонд "Дзецям Чарнобыля", арганізаваны ў 1990 годзе Галоўным праўленнем Федэрацыі рускіх канадцаў, не менш чым 100 долараў. Яна займаецца рукадзеллем, вырабляе розныя рэчы, а потым прадае іх сваім сябрам і знаёмым і такім чынам збірае грошы на дабрачынныя мэты. З пачатку існавання фонду яна ахвяравала ўжо 3 415 долараў. Аб гэтым мы даведаліся з верасnёўскага нумара канадскай газеты "Вестник".

Федэрацыя рускіх канадцаў, якая складаецца пераважна з беларусаў, дапамагае ў асноўным Беларусі, як больш пацярпелай ад чарнобыльскіх наступстваў. "Вестник" паведамляе, што на працягу 1991 года ФРК даслала нам дапамогі на агульную суму больш за 84 506 долараў, а ў 1992-м — 25 627 долараў. Сюды ўваходзяць медыкаменты ад фірмы "Новофарм", персанальныя камп"ютэры для клінікі Рэспубліканскага навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, ахвяраванні ад "Дэмакратычнага польскага таварыства", іншых устаноў і асоб у Канадзе, сабраныя актывістамі ФРК. Ахвяраванні працягваюць паступаць на рахунак фонду.

У Беларусі ніхто не застанецца абыякавым да людской дабрыні нашых канадскіх суайчыннікаў. Вельмі прыемна адчуваць, што мы і нашы дзеці не забыты, што ёсць людзі, якія ўвесь час пра нас турбуюцца.

**Т. СЯРГЕЕВА.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ЯКАЯ ТЫ, БЕЛАРУСЬ?

Юрка Станкевіч — самастойны студэнт, які вывучае мастацтва кінематаграфіі ў Эвагрын Стэйт Каледжы (штат Вашынгтон), прыехаў у Беларусь здымаць фільм. Нарадзіўся ён у Амерыцы, але моцны спадчынна-генетычны код зрабіў сваю справу, і вось мара пазнаёміцца з зямлёй сваіх продкаў здзейснілася. Усе два тыдні суправаджаў і дапамагаў яму ў працы ягоны бацька — Богуш Станкевіч, які нарадзіўся каля Ашмянаў, але доўгі час жыве ў Амерыцы.

Лёс беларускага народа, лёс Беларусі пасля чарнобыльскай трагедыі, будучыня дзяржавы — вось што непакоіць маладога чалавека, і гэта галоўная тэма будучага фільма.

Час прайшоў у раз"ездах і спатканнях з рознымі людзьмі. Ён наведаў Магілёў і Слаўгарад, вёску, дзе жывуць перасяленцы з забруджанай зоны, быў у шпіталях і дзяржаўных установах, сустракаўся з дэпутатамі і проста людзьмі на вуліцы. Пытанняў было шмат. Аб тым, як асвятляецца тэма Чарнобыля па тэлебачанні, паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Павел Шаўчук. Цікавай была сустрэча з кіраўніцтвам Беларускага народнага фронта "Адраджэнне". Вельмі моцнае ўражанне засталося пасля наведання Рэспубліканскага анкагематалагічнага цэнтра.

Прыемна было назіраць, як працуе Юрка. Рабіў ён усё вельмі спакойна, дасканала, адчуваўся прафесіяналізм. Які атрымаецца фільм? Мяркую, у нас будзе магчымасць пабачыць, ён абяцаў даслаць стужку.

А на заканчэнне чакала яшчэ адна сустрэча. Гэта не першы візіт на Бацькаўшчыну старэйшага Станкевіча. А вось пабачыць свайго малодшага сваяка і праводзіць у далёкую дарогу павінны былі прыехаць у Мінскі аэрапорт суродзічы, якія жывуць тут, у Беларусі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ПА МЕТАДУ ЎРАЧА Р.ФОЛЯ

**Сорак гадоў вядомы сусветнай медыцыне метад германскага ўрача Р.Фоля. Аднак у рамках былога Саюза ён доўгі час замоўчваўся. Цяпер асваеннем яго і выкарыстаннем на практыцы паспяхова займаецца ў Мінску фірма "БЕЛНІКО".**

**Некалькі дзесяткаў тысяч пацыентаў прайшлі тут дыягностыку і лячэнне. Сутнасць метаду — у вымярэнні электраправоднасці ў кропках класічнай акупунктуры і яшчэ ў васьмістах, адкрытых Р.Фолем, а таксаа ў правядзенні "медыкаментознага тэста", што дазваляе з дакладнасцю да 98—100 працэнтаў выявіць захворванне на ранняй стадыі. Вынікі дыягностыкі становяцца для кожнага канкрэтнага пацыента своеасаблівым лячэбным фактарам, які выкарыстоўваецца для прыгатавання індывідуальнага лякарства па спецыяльнай тэхналогіі. Такі сродак не ўтрымлівае хімічна актыўных рэчываў, асновай для яго служаць дыстыляваная вада, пчаліны воск, фізіялагічны раствор кухоннай солі і г.д. Выкарыстоўваецца ў методыцы Р.Фоля і лячэнне нізкачастотнымі токамі, што дае хуткі абязбольваючы эфект.**






**НА ЗДЫМКАХ: адным з першых асвоіў метад Р.Фоля ўрач-гамеапат Віктар НІКАЛАЕЎ; медыкаменты і крэмы заходнегерманскай фірмы для лячэння па метаду Р.Фоля.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА З'ЕЗДА

# СЛАВІСТЫ СУСТРЭЛІСЯ Ў БРАЦІСЛАВЕ

На пачатку залатой восені сталіца незалежнай Славакіі загаманіла на ўсіх славянскіх мовах. Тут, над берагам Дуная, працаваў чарговы, ужо адзінаццаты, Міжнародны з'езд славістаў. Гучала на ім і беларуская мова. Праўда, не так часта, як хацелася б: наша дэлегацыя была самай нешматлікай з усіх славянскіх і ўступала нават неславянскім — венгерскай ці японскай. У ёй было ўсяго 15 навукоўцаў — М. Біч, А. Грыцкевіч, К. Кабашнікаў, Л. Малаш, В. Мартынаў, І. Навуменка, Г. Праневіч, А. Супрун, Г. Цыхун, І. Шаблоўская і іншыя. Ды часта наконт мовы "выручалі" зарубежныя вучоныя. На з'ездзе прысутнічалі і ўзнімалі ў сваіх дакладах беларускую праблематыку такія беларусісты, як К. Гутшміт, Г. Ротэ (Германія), А. Барташэвіч, М. Кандрацюк, З. Нядзеля (Польшча), Ю. Лабынцаў (Расія), Юн Ічы-сата (Японія).

Зрэшты, беларусіка здабывае ў свеце ўсё новых і новых сяброў. З прыемнасцю я пазнаёміўся на з'ездзе з бельгійскім прафесарам Ф. Томпсанам, нямецкім даследчыкам Г. Шалерам, масквічкай Н. Запольскай. Ужо самі назвы іх дакладаў — "Духоўныя цячэнні на Украіне і ў Беларусі ў XVI—XVII ст. ст. — рэалістычнае асучасніванне ці псеўдамарфоза праваслаўя?", "Да пытання аб пераходзе ад усходнеславянскага моўнага адзінства да рускай, украінскай і беларускай моў","Біблія Ф. Скарыны і Псалтыр А. Фірсава і іх заходнеславянскія крыніцы (сістэмна-функцыянальны статус гібрыдных моў)" — сведчаць, што беларуская гісторыя, мова, літаратура набываюць усё большую прыцягальную сілу. У "Зборнік рэзюме", які выйшаў да з'езда, уключаны таксама тэзісы даклада "Польская культура ў беларускім літаратурным адраджэнні канца XIX — пачатку XX ст." прафесара Вроцлаўскага універсітэта Т. Позьняка, але сам ён не прыехаў.

Увогуле ж браціслаўскі форум быў ці не самым прадстаўнічым за ўсю гісторыю славістычнага руху, які арганізацыйна аформіўся яшчэ да другой сусветнай вайны. Праграма з'езда, што праходзіў ажно ў 17 залах, уключала амаль 800 асноўных і яшчэ звыш 300 "скрыптавых" дакладаў. Адкрыўся ж ён урачыста — у прадстаўнічай зале "Істраполіс" (Істрай рымляне называлі Дунай) прывітаннямі прэзідэнта Славацкай Рэспублікі М. Ковача і старшыні Славацкага камітэта славістаў Я. Дорулі.

Гісторыі Славакіі, яе мове, літаратуры былі прысвечаны многія даклады, выступленні ў дыскусіях. Слухаючы іх, я пераканаўся, што ў Славакіі і Беларусі — падобны лёс. Доўгія стагоддзі яны знаходзіліся ў "цені" больш магутных блізкамоўных суседзяў і толькі нядаўна сталі незалежнымі. І славакі, і беларусы шукаюць сваё апірышча ў гісторыі — у традыцыях, што ідуць ад Вялікай Маравіі, ад Полацкага і Тураўскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага. Толькі першым гэта ўдаецца (іх спадкаемства ў дачыненні да Вялікай Маравіі пад сумненне не ставіцца), другім жа ўвесь час даводзіцца даказваць, што спрадвеку жывуць на сваёй зямлі. Розніца бачыцца яшчэ і ў тым, што права славакаў на незалежнасць чэхі не адмаўляюць (прынамсі, публічна, у друку); у нас жа яно часта адмаўляецца самімі беларусамі.

Па-сапраўднаму я пазайздросціў славакам, іх павазе да ўсяго нацыянальнага, калі ў нядзельны дзень мы паехалі ў вёску, дзе нарадзіўся Ян Колар, і горад Марцін — цэнтр нацыянальнага адраджэння. Там знаходзяцца этнаграфічны і літаратурны музеі, музей пад адкрытым небам, а таксама "Маціца славацкая", установа, блізкая па мэтах да нашага Цэнтра імя Ф. Скарыны. Але адрозненні паміж імі — агромністыя. У першай — чатырнаццаціпавярховы, абсталяваны сучаснай тэхнікай будынак з трохмільённай бібліятэкай, багатым архівам, інстытутамі біяграфій і бібліяграфіі, уласным выдавецтвам. У другога — восем пакояў на другім паверсе былога Інбелкульта, адсутнасць сродкаў на набыццё нават самых неабходных беларускіх кніг. Праўда, суцяшала, што ў "Маціцы" — 130 гадоў гісторыі (няхай і перарывістай), а ў цэнтра — толькі два з паловай. І развівацца яму будзе лягчэй, абапіраючыся якраз на вопыт розных славянскіх "маціц". Пра гэта хораша гаварылася са старшынёй Рады "Маціцы славацкай" спадаром Ёзэфам Маркушам, які на развітанне падараваў для цэнтра і МАБ некалькі каштоўных выданняў.

Вядома, была на з'ездзе і традыцыйная славістычная выстава. Беларусы таксама прывезлі на яе каля двухсот выданняў (часта — уласных), якія застануцца ў Славацкай акадэміі навук. Многія наведвальнікі пыталіся, дзе можна купіць іх (Біблію Ф. Скарыны, слоўнік "Беларускія пісьменнікі", мовазнаўчыя працы) — няхай і па "сусветных" цэнах. Але што мог я прапанаваць ім апрача асабістага абмену?! На кнігу мы не ўмеем сабраць тыраж, а потым, нарэшце выдаўшы, выгадна яе прадаць...

Аднак вернемся да выставы. На ёй, на стэндах нашых суседзяў, я пабачыў мноства новых беларусікаў, якія шчыра ўзрадавалі. Гэта і зборнік, прысвечаны Скарыне і выдадзены ў Празе сябрам МАБ Ф. Сокалавай, і нямецкае перавыданне кнігі А. Фляроўскага пра сувязь Ф. Скарыны з чэшскім кнігадрукаваннем, і беларускі слоўнік варшаўскага лінгвіста А. Барташэвіча, і цалкам беларускі выпуск штогодніка "Палона-славіка арыенталія", які рэдагуе сябра МАБ Б. Бялаказовіч, і даволі шматлікія публікацыі беларускіх філолагаў (А. Аксамітава, В. Мартынава, А. Супруна, І. Шаблоўскай і інш.), якія ўсё ж прабіваюцца ў Еўропу. Пабачыў таксама некалькі новых прац пра В. Быкава, А. Разанава.

І, вядома ж, былі цікавыя, часам нечаканыя сустрэчы. Вольга Кухтава, удава самабытнага пісьменніка Ондры Лысагорскага, згадвала на заключным прыёме Янку Купалу, які, аказваецца (не ведаў раней), быў у Браціславе ў 20-я гады. З інжынерам Ота, зяцем пісьменніцы Гэлены Крыжанавай-Брындзавай (ужо нябожчыцы), доўга гаварылі пра Уладзіміра Караткевіча, які двойчы прыязджаў сюды, падарожнічаў па Карпатах, успаміналі сумесныя вечары ў Мінску і Навагрудку. Спадарыня Скамарохава-Вентурыні з Генуэзскага універсітэта падзялілася планамі адкрыць лектарат беларускай мовы і літаратуры (вось толькі кніг няма...), а японцы дружна падтрымалі ідэю стварэння сумеснага фонду імя І. Гашкевіча. Многія незнаёмыя славакі, пабачыўшы на пінжаку "беларускую" візітку, паціскалі руку, пыталіся, ці "вытрываем".

Паводле рашэння Міжнароднага камітэта славістаў (на жаль, Беларусь у ім пакуль што не прадстаўлена: вядомы мовазнавец М. Суднік выйшаў з яго па ўласным жаданні, а Г. Цыхун, вучоны сакратар МАБ, прысутнічаў на пасяджэннях пакуль што як асабіста запрошаны), наступны з'езд славістаў адбудзецца праз пяць год у Польшчы — Варшаве ці Кракаве. А там зноў прыйдзе чарга ўсходніх славян. Паколькі ж у Маскве і Кіеве такія з'езды ўжо адбыліся, дык, відаць, гэтая чарга будзе — беларуская.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

# КУПАЛАЎСКАЯ "ПАЎЛІНКА" Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

Прыемна было адчуваць сябе на сцэне з такімі выдатнымі выканаўцамі роляў, як Грыгоніс (Пранцісь Пустарэвіч), Лявіцкі, прыгожы хлопец Алесь Залескі ў ролі Якіма і інш.

Нягледзячы на паўторную пастаноўку "Паўлінкі", і цяпер была паўнюсенькая заля публікі, якая з энтузіязмам, горача вітала кожную сцэну спектакля. У драматычны гурток і хор уліваліся ўсё новыя сілы. Быстра разыходзіліся выданні беларускай літаратуры і, калі не хапала грошай, каб выкупіць з друкарні чарговы нумар "Нашай нівы" ці новы зборнік, і мы, моладзь, бегалі па ўсёй Вільні, збіраючы складкі, людзі не шкадавалі, хто залатоўкі, а хто і рубля на гэту мэту. Я не памылюся, калі скажу, што прычынай такой добразычлівасці з боку грамадства да развіцця беларускай культуры была ў значнай меры купалаўская "Паўлінка".

Неўзабаве мне давялося выконваць трудную ролю Пронкі ў 4- актовай інсцэніроўцы апавядання Эл. Ажэшкі "Хам". Вось урывак з рэцэнзіі на гэты спектакль.

"...гралі на сцэне "Хам" — драматычны абразок з жыцця наднёманскіх сялян-беларусаў — рэч вельмі сур'ёзную па сваім змесце і рэч, каторая вымагае ад штукара вялікай кемнасці і сцэнічнай практыкі.

... Пронку добра сыграла П. Мядзёлка. Яна іграла з захватам, хоць і чуваць было, што штукарка новая асоба на сцэне. Ёй удалося стварыць тып Пронкі, каторая цікава сваёй трагічнай шчырасцю. Асабліва міла ўдарала вуха слухача чыстая з добрай акцэнтацыяй беларуская мова штукаркі..." ("Наша ніва" N 50 за 12/XII-13 г.).

Школай драматычнага мастацтва з'яўляліся для мяне Першае таварыства беларускай драмы і камедыі ў Мінску пад кіраўніцтвам прафесіянальнага артыста Фларыяна Ждановіча. На сцэну Мінскага гарадскога тэатра (цяпер І-шы Дзяржаўны тэатр імя Я. Купалы) трапіла выпадкова. Праездам з Кіева ў Жорнаўку, куды накіроўвалася адкрыць адну з першых беларускіх школ, я затрымалася ў Мінску на некалькі дзён. У гэты час там адбываўся І-шы з'езд салдацкіх дэпутатаў армій Заходняга фронту (з'езд адкрыўся 18 кастрычніка 1917 г.). Для дэпутатаў з'езда спешна рыхтавалася пастаноўка "Паўлінкі". Мне запрапанавалі выступіць у ролі Паўлінкі. Спектакль у гарадскім тэатры прайшоў гладка, жыва, весела. Усведамленне таго, што я выступаю на сапраўднай тэатральнай сцэне, а не на цеснай сцэне клубаў, прытым — для дэпутатаў з'езда, узнімала пачуццё адказнасці, і я іграла з такім жа ўздымам, як і ў часе свайго першага выступлення ў Піцеры. Пасля спектакля за кулісы прыйшлі дэпутаты з'езда вітаць нас з поспехам і падзякаваць за пастаноўку. Адзін з дэпутатаў, пабачыўшы, што я збіраюся ўжо выходзіць з тэатра, апрануўся ў шырокую, ветрам падбітую сялянскую світку, папрасіў мяне затрымацца і праз некалькі хвілін прынёс і падараваў мне цёплы ваўняны світар. Як мне пазней сказалі, гэта быў піцерскі бальшавік Ал. Чарвякоў, пазнейшы "Усебеларускі староста".

З гэтага дня я стала членам Першага Тав[арыст]ва беларускай драмы і камедыі. Калектыў быў даволі вялікі. У яго склад уваходзіла ўся сям'я Ждановічаў: брат Фларыяна — Антон, які пазней прыняў псеўданім Крыніца, жонка Фларыяна, дачка Ірына. Апрача іх, Галубок, Фальскі, Грыгоніс, Саннікаў, Міцкевіч, Злотнікаў, Жакоўскі, сёстры Вера і Люба Тарасік, пазней далучыліся Ржэцкая і шмат іншых.

Ці памятаеце вы, старыя сябры па сцэне, якая гэта была самаадданая праца, праца, поўная своеасаблівай рамантыкі? Ці памятаеце, як адны з вас пасля цяжкай дзённай працы, другія, галодныя і зняможаныя ад дарэмных пошукаў працы, аддавалі свой вольны час, усе сілы мастацтву для свайго народа? Ці памятаеце "Беларускую хатку" на Конскім рынку, дзе адбываліся нашы спектаклі?

Доўгая, бы пуня, сцюдзёная будыніна. Апрача залі са сцэнай былі два пакойчыкі. Кожны вечар тут адбываліся рэпетыцыі. Нікога не трэ' было зазываць, упрошваць — усе прыходзілі акуратна і бясспрэчна выконвалі ўсялякую работу: самі падмяталі і мылі падлогу, самі рабілі дэкарацыі, шылі, вышывалі нацыянальныя касцюмы, самі на сваіх плячах насілі дэкарацыі на Ляхаўку, дзе час ад часу ставіліся спектаклі. І ўсяму гэтаму трэба дзякваць вялікай папулярнасці купалаўскай "Паўлінкі", з якой і пачыналася праца Першага Таварыства. Даходзіла да таго, што амаль кожны раз, калі я праходзіла па вуліцах мінскіх акраін, то з аднаго, то з другога боку чуліся звонкія юнацкія галасы: "Паўлінка!", "Паўлінка!" або "Паўлінка, а дзе ж твой Якімка?". Відаць, гэтыя гарэзнікі не раз пабывалі ў "Беларускай хатцы". І хаця на гэтай сцэне я іграла ролі і Зоські з "Раскіданага гнязда" Я. Купалы, і Пронкі з "Хама", і іншыя ролі, аднак гэтым юнакам найбольш палюбілася "Паўлінка". Вось гэтыя падлеткі хутка сталі нашымі дапаможнікамі. Хіба можа забыцца ўдзел гэтых падлеткаў у абсталяванні сцэны да першага акта "Хама"?

Захацелі хлопцы ўсю сцэну як мага больш наблізіць да жывой прыроды. Ул. Галубок намаляваў прыгожы заднік. Хлопцы збілі з дошчак шырокае карыта, напоўнілі яго вадой (рака Нёман!), пакрылі ўсю сцэну зялёным дзірваном, засадзілі жывымі кустамі, каб быў чуцен плёскат вады, за кулісамі з палівачкі журчэла ў карыта вада. Там жа было нарыхтавана вядро з жывой рыбай.

На сцэне сядзіць на перавернутым чоўне Паўлюк і латае рыбалоўную сетку. Ля берагу яго малодшы брат Цыпрук закідвае вуду за кулісы, а там хутка начэпліваюць на кручок жывую рыбу. Праз хвіліну Цыпрук тузае вудзільню, і рыба б'ецца-трапечацца на зялёнай мураве перад самай публікай. З аднаго боку куліс дзяўчаты прыцішана спяваюць жніўную песню, а з другога боку я іграю на жалейцы. Нямая сцэна працягваецца хвілін пяць, а мо і больш. Публіка горача апладзіруе.

— Ледзь не тэатр Станіслаўскага ў Маскве! — з лёгкай, але дружалюбнай іроніяй кажуць нам падчас антракта.

Цяпер трэба хуценька прыбраць усе кусты, дзірваны, карыта з вадой і паставіць дэкарацыю сялянскай хаты для 2-га акта. Усё гэта ўмомант было зроблена рукамі хлапчукоў са Старажоўкі і Камароўкі. Сярод іх быў і будучы паэт Андрэй Александровіч і будучыя акторы тэатра, як Платонаў і інш.

Вясной 1919 года мяне пасылаюць у Гродна ў якасці інспектара беларускіх школ. У мае абавязкі ўваходзіла забеспячэнне школ падручнікамі, беларускай літаратурай, выпрацоўкай праграм, арганізацыя прафсаюза і курсаў перападрыхтоўкі настаўнікаў.

Да першай сусветнай вайны ў Гродне існаваў Гурток беларускай моладзі, у які ўваходзілі пераважна гімназісты. З часам гімназісты раз'ехаліся і ГБМ перастаў існаваць. Даведаўшыся пра гэта, мы рашылі аднавіць ГБМ, але ўжо ў іншым складзе. Цяпер у гурток уваходзілі маладыя настаўнікі, часткай рабочая моладзь, беспрацоўныя і інш. Мяне выбралі старшынёй ГБМ. На сябе я ўзяла кіраўніцтва драматычным гуртком, а настаўнік Шах — харавым. Закіпела энергічная праца ў беларускім клубе на Палявой вул., N 8. Рэч вядомая, пачалі з пастаноўкі "Паўлінкі". Кожны вечар рэпетыцыі п'ес і хору, кожную суботу ці нядзелю рабілі пастаноўкі і канцэрты на сцэне гарадскога тэатра і заўсёды пры поўных зборах. Але як жа цяжка было здабыць у старостве дазвол на спектакль і канцэрт! Колькі парогаў трэ'было абабіць, колькі языка намазоліць, даказваючы, што ў той ці іншай п'есе, песні ці вершы няма нічога шкоднага для паноў-акупантаў, што там няма ніякай палітыкі. Дабіўшыся, нарэшце, дазволу, трэба бегчы ў магістрат і штурмам браць будынак гарадскога тэатра, бо і тут спатыкаліся перашкоды не меншыя, чымся ў старостве. Польскія ўжэнднікі выкапвалі розныя, часта недарэчныя прычыны, каб толькі адмовіць нам за плату адчыніць дзверы тэатра. Дзе бокам, дзе скокам, дзе стукаючы кулаком па стале, а дзе пусціўшы ў ход хітрасці ці залётны позірк вачэй, — удавалася ўварвацца ў храм драматычнага мастацтва. Аднак ужо і там не раз навісала пагроза зрыву спектакля. Хтосьці, напрыклад, з публікі ў фае трымае ў пальцах яшчэ не закураную папяросу, і паліцыя рада гэтаму выпадку, каб разагнаць усю публіку і не дапусціць да спектакля. Іншым разам ужо загрыміраванага хлопца хвілін за 15 да пачатку спектакля раптам забіраюць у пастарунак паліцыі для высвятлення асобы або абвінавачваючы яго ў тым, што ён быццам прымаў удзел у нейкай выдуманай вулічнай авантуры, і трымаюць яго там гадзіну-другую. Публіка, выслухаўшы нашы тлумачэнні аб прычыне зацяжкі спектакля, церпліва чакае, а мы тым часам наспех мяняем праграму, маючы ў запасе некалькі дазволеных цэнзурай песень, вершаў ці невялікіх апавяданняў з мастацкай літаратуры. А здаралася і так, што перапрасіўшы публіку, адкладвалі спектакль на другую суботу ці нядзелю.

**Паўліна МЯДЗЁЛКА**

**Працяг.**
**Пачатак у N 39.**

